

# ДОБРЫ ВЕЧАР
Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1992 СНЕЖАНЬ 14
Панядзелак
№ 237 (422)
Цана 1 рубель

## ПЕРШАЯ КАЛОНКА

# ЦІ ЛЁГКА БЫЦЬ АПТЫМІСТАМ?

МАКСІМ ГРЭК, «ДВ».

**Аптымізм, сцвярджаюць слоўнікі, — гэта светапогляд, які прасякнуты жыццярадаснасцю, бадзёрасцю, верай у лепшае будучае; гэта схільнасць бачыць у навакольным толькі добрыя, светлыя бакі.**

**Лекары, магчыма, тут жа б дадалі, што аптымізм дапамагае ўмацаваць здароўе, спрыяе нармальнаму абмену рэчываў у арганізме і стварае ахоўны экран супраць усялякіх стрэсаў ды інфарктаў. І заклікалі б кожнага з нас як мага больш увагі надаваць свайму духоўнаму здароўю шляхам невычэрпнай бадзёрасці.**

**І я, вядома, падтрымаў бы гэткі заклік абедзвюма рукамі, каб... не разумеў марнасць падобных воклічаў. Справа ў тым, што больш жыццярадаснага чалавека, чымсьці наш, і не знойдзеш нідзе!**

*ІДЗЕ, для прыкладу, наша кабеціна раніцой у магазін, а там мяса ў два разы даражэй каштуе, чым учора вечарам. Амерыканская гаспадыня ўжо і прытомнасць бы страціла, а наша мацюкнецца ціхенька, ды і зробіць пакупку (а ці бяды, што ў два разы меншую, чым планавала?!). А потым яшчэ і ў прамтаварную краму забяжыць, англійскую памаду прыдбае, выклаўшы свой тыднёвы заробак. Думаеце, спахмурнее крыху? Дзе там, такой прыгожай сябе адчуе — трымай толькі!*

*А мужыкі? Во дзе сіла! Джон які-небудзь ужо б расавыя хваляванні наладзіў, каб ягоны «Джоні Уолкер» на два кавалкі «вашынгтонаў» пацягнуў. А наш кавалкі гэтыя (праўда, у «зайчыках») спакойна за бутлю спірту адвальвае — кайф затое які такую каштоўную вадкасць піць!*

*Да зарплат нашых без аптымізму ўвогуле адносіцца нельга. Зразумела, што нават з васьмі-дзесяці штомесячных тысяч купіць што-нішто прыстойнае (мэблю, радыётэхніку, вопратку, абутак), ну аніяк не атрымаецца. Назбіраць, з прычыны інфляцыі, таксама праблематычна. Дык і не трэба нам дарагіх рэчаў! Затое «марсаў-снікерсаў» аж дзесяць штук купіць можна. Таму і выйшлі мы, мяркуючы па колькасці фірменных паперак на тратуарах, у сусветныя лідэры па спажыванні шакаладнай прадукцыі. Чым не салодкае жыццё?*

*А мяне, напрыклад, вазьміце. Ну, прызнаюся, была некалі мара — сваё аўто. І вось сяджу днямі на сесіі гарсавета, і слухаю інфармацыю пра новыя цэны на прадукцыю Волжскага аўтазавода ў Мінскім фірменным магазіне. «Ака» — больш за мільён, дзевяноста дзевятая — чатыры трыста восемдзесят... І, ведаеце, такая радасная, светлая думка ў галаў прыйшла — як жа выйграе экалогія майго роднага горада! Навошта нам тыя машыны? У Мінску столькі грамадскага транспарту, столькі прыемных і прыязных людзей, якія набіваюцца ў гэты транспарт у «гадзіну пік» і робяць кожную паездку надзвычай незабыўнай! Бадзёрасці маёй канца краю няма. Вось і цяпер з нецярпеннем чакаю раніцы, каб выправіцца хутчэй на работу.*

*А як не радавацца палітычнаму жыццю ў краіне? Адмовіў, напрыклад, Вярхоўны Савет народу ў праве на рэферэндум. Плакаць з такой нягоды? Як можна! Нам жа паабяцалі дэпутаты ВС скончыць свае паўнамоцтвы на год раней, дык мы іх за такую ласку астатні час на руках насіць будзем.*

*Ці ўзяць «прыхватызацыю». Няўжо можа быць шкада гэтай нічыйнай дзяржаўнай маёмасці?! А калі каму і шкада, усё роўна ёсць падставы для аптымізму — хутка працэсы раздзяржаўлення скончацца з прычыны адсутнасці іх аб'ектаў. А я асабіста вельмі радуюся таму, што з неахайных і безгаспадарчых дзяржаўных рук сродкі трапілі ў сумленныя, руплівыя і справядлівыя махнатыя лапкі. Любата!*

*А як прыемна мець такі разумны ўрад, які ўмее глядзець у перспектыву! Як выключна мудра ён дзейнічае, нават і не спрабуючы адарваць эканоміку рэспублікі ад братняй Расіі! Толькі падумайце — самім мучыцца ані на грам не трэба, усё за цябе ў Маскве вырашаць: і фінансавыя пытанні, і валютныя, і цэнавыя, і інвестыцыйныя, і прыярытэты прызначаць патрэбныя. Гэта ж як здорава — думаць не трэба, сядзі і загады па структурнаму ланцужку перадавай!*

*Я ўжо не кажу пра праблемы нацыянальныя. Найвялікшым дасягненнем мы лічым прыярытэтнае развіццё мовы суседняй краіны, нават змагаемся за наданне ёй статуса дзяржаўнай. А як інакш? Хто, акрамя беларусаў, абароніць мову рускіх ад вынішчэння яе мардвой, татарамі і чукчамі? Беда-лажку, яе выгналі з Балтыі і Грузіі, Украіны і Малдовы, Казахстана і Сярэдняй Азіі. Каб не мы (цьфу-цьфу!), яна б ужо і статус мовы міжнародных зносін страціла. Як тут не ганарыцца!*

*А з якім светлым пачуццём глядзім мы амерыканскія фільмы па камерцыйным канале! Гэта ж якая ў нас мова багатая супраць іхняй: у іх «фак ю» ды «бітч», а з нашых слоўцаў тры паверхі збудаваць можна. І дзеці нашыя сталеюць на вачах: у яслях ужо ведаюць, чым адрозніваюцца гарманальныя кантрацэптывы ад механічных, а ў дзіцячым садку адзін аднаму канфідэнцыяльныя паслугі за кубік гумкі аказваюць. Умее новая генерацыя рыначныя адносіны засвойваць!*

**Словам, як казаў адзін вусаты дзядзька, жыць становіцца ўсё лепей, жыць становіцца ўсё весялей. Наш аптымізм кіпіць і б'е з нас невысыхаючымі крыніцамі. Ручайкі гэтыя зліваюцца ў магутны паток жыццярадаснасці, які імклівай хваляй нясе нашую рэспубліку па каналізацыйнай трубе гісторыі. І не бяды, што наперадзе няма прасвету: мы ўзброены стратэгічнай сыравінай, нашым галоўным выкапнем — аптымізмам.**

**Толькі вось, ведаючы, што прыродныя рэсурсы падзяляюцца на ўзнаўляемыя і вычарпаемыя, іншы раз не-не, але і схамянешся — наша бадзёрасць да якой групы належыць!..**

## СВЯТКУЕ «СПАДЧЫНА»

УЛ. ІНФ. «ДВ».

**ЧАРГОВУЮ вечарыну ў Доме літаратара правялі днямі сябры клуба «Спадчына». На гэты раз яна была прысвечана 75-м угодкам Усебеларускага кангрэса. Старшыня клуба Анатоль Белы зачытаў шматлікія тэлеграмы, якія паступілі на адрас клуба з нагоды азначанай юбілейнай падзеі, уручаны ганаровыя дыпломы сяброў «Спадчыны» вядомым беларускім вучоным М. Ермаловічу, Я. Юхо, Г. Штыхаву і Л. Лычу.**

**А потым адбылася вялікая канцэртная праграма «У далонях маёй Беларусі», падрыхтаваная сіламі «спадчынцаў». Гучалі песні і вершы, асноўным лейтматывам якіх была любоў да роднай Айчыны. І па тварах прысутных у зале адчувалася: адродзіцца Беларусь, не загіне!**

● ФАКТ

## АМЕРИКАНЦЫ ОБЕЩАЮТ ПОМОЩЬ

ТАТЬЯНА ЩЕБЕТ, БЕЛАПАН.

**В СОВЕТЕ Министров Республики Беларусь состоялась пресс-конференция господина Дэвида Суорца— Чрезвычайного и Полномочного Посла США в Беларуси. Обсуждался вопрос поставки и использования американской гуманитарной помощи.**

**В частности, посол сообщил журналистам о намерении американской стороны увеличить поставки технической помощи, о готовности оказать содействие в области банковского дела, вывоза ядерного оружия в Россию и проведении в этом случае экспертного контроля, а также о других акциях в рамках осуществления межгосударственной программы «Корпус мира».**

## КЛИРИНГ НАМ ПОМОЖЕТ?

СВЕТЛАНА КУЛИКОВА, БЕЛАПАН.

**ПОДВЕЛА итоги своей деятельности рабочая группа стран СНГ по созданию Международного банка расчетов. Делегацию Республики Беларусь возглавил заместитель председателя Национального банка Валентин Заяш. На встрече был разработан проект устава банка, а также проект соглашения глав государств по вопросу о создании банка.**

**В интервью корреспонденту БелаПАНа начальник управления организации банковского учета и расчетов Национального банка Республики Беларусь Георгий Климович отметил: «Международный банк расчетов однозначно необходим. А для удачного его создания надо скорее решить вопрос многостороннего клиринга,—благо это все понимают. Иначе—тупик».**

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

● СИТУАЦИЯ

## МАРШ, МАРШ ВПЕРЕД, РАБОЧИЙ НАРОД?

БЕЛАПАН.

7 ДЕКАБРЯ на заседании совета Свободного профсоюза Беларуси поддержана инициатива ряда профсоюзных организаций минских предприятий—МАЗа, тракторного завода, объединения БелВАР и других. Суть инициативы—в проведении 23 декабря марша-протеста против очередного повышения цен, спада производства, безработицы, попыток ввести систему локаутов, а также митинга на площади Независимости. Однако 10 декабря совет Свободного профсоюза решил не проводить свои марш-протест и митинг в связи с тем, что Федерация профсоюзов Беларуси запланировала на вторую половину дня 22 декабря свою акцию. Как заявил член совета народный депутат Сергей Антончик, Свободный профсоюз не будет участвовать в акции ФПБ, но и не будет выступать против нее.

Итак, митинг протеста против очередного повышения цен состоится на площади Независимости 22 декабря примерно в 16 часов.

● ДОСЬЕ «ДВ»

## *ИНДЕКСЫ ЦЕН*

ПО ДАННЫМ МИНГОРСТАТУПРАВЛЕНИЯ.

**ПО СРАВНЕНИЮ** с декабрем 1991 года оптовые цены в промышленности в ноябре 1992 года возросли в 28 раз. Наиболее значителен рост в машиностроении — в 36,5 раза, в пищевой — в 40, в промышленности по производству строительных материалов — в 37,3 раза.

**РОЗНИЧНЫЕ** цены на товары в ноябре этого года почти в 18 раз превышали уровень ноября прошлого года, на услуги — в 21 раз.

**В ВОСЕМЬ** раз по сравнению с декабрем 1991 года выросли цены на продовольственные товары в государственной и кооперативной торговле. Цены на непродовольственные товары возросли в 9 раз. По сравнению с октябрем наибольший рост цен наблюдался на яйца (в 2 раза), на фрукты (на 74 процента), маргарин (68), кондитерские изделия (65), муку (57 процентов). По непродовольственным товарам значительно увеличились цены на автомобили (в 2. 3 раза), музыкальные товары (в 2 раза), меха, товары бытовой химии (в 1,8 раза), электротовары (в 1,5 раза), кожаную обувь (в 1,4 раза). Цены на колхозном рынке в ноябре выросли на 19 процентов. Индекс цен по сравнению с октябрем составил: на яблоки — 144 процента, молочные продукты — 142, яйца — 155, помидоры — 162 процента. По сравнению с ноябрем прошлого года цены на колхозном рынке выросли в 7,6 раза.

**БЫСТРЫМИ** темпами росли и цены на платные услуги. По сравнению с октябрем на 80 процентов возросла стоимость проезда в пассажирском транспорте, на 76 процентов дороже стали туристско-экскурсионные услуги, на 53 — бытовые, на 44 — здравоохранение.

## БЕЛАРУСЬ ПОКА ЕЩЕ ДЕРЖИТСЯ. НА ВРАЧАХ

БелаПАН.

КАК сообщило Министерство здравоохранения, в Беларуси наблюдается эпидемический рост дифтерии. Судите сами: за 10 месяцев этого года зафиксировано 44 случая заболевания, один — со смертельным исходом, в то время как за аналогичный период прошлого года известно только 22 случая. Наибольшее количество заболеваний сейчас приходится на Могилев — 13 человек, из них 5 детей. Причина такого роста заболеваемости дифтерией, по словам врачей, — нежелание населения делать прививки. Тяжелые формы дифтерии развиваются вследствие позднего обращения больных в поликлинику, а иногда — и неправильной диагностики.

Однако, как считают в Министерстве здравоохранения республики, именно благодаря качественной работе врачей Беларусь пока еще «держится» на последнем месте по количеству инфекционных заболеваний среди стран СНГ.

## ІНФАРМБЮРО

### КАЛЯНДАР

**ЗІМА. 394 ДЗЕНЬ ГОДА.**
**СОНЦА** ўзышло ў **8.21**, зойдзе ў **15.48**. Даўжыня дня **7.27**.
**МЕСЯЦ** — апошняя чвэрць (16 снежня).

### ІМЯНІНЫ

**СЕННЯ:** Навума, Альфрэда.
**ЗАЎТРА:** Апанаса, Ніны, Сцяпана.

### НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

«Навум наставіць на вум». Даўней, у дзень прарока Навума беларусы пачыналі навучанне грамаце дзяцей.

### ЯК ПАВЕДАМІЎ ГІДРАМЕТЦЭНТР

**СЕННЯ** ў 11 гадзін у Мінску было 0 градусаў. Ціск 735 мм ртутнага слупа. Адносная вільготнасць 90 працэнтаў. Вецер заходні—2—6 м/сек.

**ЗАЎТРА** ў Мінску чакаецца воблачнае надвор'е, часам ападкі. Тэмпература паветра ноччу 0—2 градусы марозу, днём — 1—3 градусы цяпла.

● НУ И НУ!

## ПРЕЗИДЕНТ НА ЧАС

*ИРИНА НОЗДРИНА, БелаПАН.*

*НЕ исключено, что в ближайшее время нас ожидают бурные перипетии политической борьбы, которая в цивилизованных странах обычно сопровождает президентов. А пока лидеры разрабатывают необходимые законопроекты, у далеких от политики сограждан появился шанс почувствовать себя «власть имущими» уже сегодня.*

*Позаботилась об этом редакция журнала «Фантакрим-пресс» (издательство «Эридан»), опубликовавшая в своем последнем номере игру «Стать президентом!».*

*Выражаясь доступным языком, принцип ее представляет что-то среднее между игрой в карты и завоевавшей популярность «Монополией». Цель игры — занять желанную вакансию, опередив других претендентов. Либералы, радикалы и даже консерваторы имеют шанс продвинуться вперед, если с честью выйдут из различных комбинаций и найдут сильнодействующее средство против репутации конкурентов. Верный шаг — и вы чувствуете их дыхание уже за собственной спиной.*

*Итак, сыграть в эту игру и одержать победу в своей первой предвыборной кампании может каждый. Только не надо обольщаться: редакция «Фантакрим-пресс» разрабатывает новую игру. Ее условное название «Убить президента».*

## МЕНЯЕТСЯ ВСЕ

СОБ. ИНФ. «ДВ».

**СЕГОДНЯ в 5 минских академиях, 3 университетах и 14 прочих высших учебных заведениях обучаются 97,9 тысячи студентов. В 23 техникумах и 3 колледжах (преобразованных из техникумов) получают среднее специальное образование 28,6 тысячи учащихся. В 226 дневных общеобразовательных школах, 5 из которых имеют статус лицея, 10 — гимназии и одна — колледжа, обучается 248 тысяч детей.**

**В пяти вузах обучение ведется на коммерческой основе, за счет собственных средств или средств предприятий. Среднее образование получает лишь 61 процент выпускников девятых классов. Численность учащихся в 8 вечерних общеобразовательных школах возросла на 8,4 процента и составила 2,5 тысячи. Численность студентов по сравнению с прошлым годом возросла на 1,9 процента.**

● БУДНИ СНГ

## СТРАТЕГИЧЕСКИЕ СИЛЫ— ЯДЕРНОЕ И ТОЛЬКО...

ВИКТОР ДЯТЛИКОВИЧ, БЕЛАПАН.

В РАБОЧЕЙ группе СНГ продолжается подготовка документов к минской встрече глав государств Содружества, которая состоится 25 декабря. На сегодняшний день полностью подготовлены проекты Устава СНГ, Положения о консультативной экономической рабочей группе, Договора о создании Межгосударственного банка. Уже не вызывает сомнений, что эти вопросы будут внесены в повестку дня встречи. Кроме них, на рассмотрение глав государств скорее всего будет внесен проект соглашения с очень длинным названием—«О создании системы взаимодействия государств Содружества по предотвращению и ликвидации последствий чрезвычайных ситуаций, связанных со стихийными бедствиями, промышленными авариями и экологическими катастрофами», а также блок военных вопросов. Среди них следует выделить вопросы «О Положении о Совете Министров обороны государств СНГ» и особенно «О внесении изменений в Соглашение между государствами СНГ от 30 декабря 1991 года по стратегическим силам». По словам постоянного представителя главного командования Объединенных Вооруженных Сил Василия Волкова, изменение коснется понятия «стратегические силы». В новой редакции оно будет значительно сужено и будет включать в себя один пункт— «стратегические ядерные силы и части их обеспечения». Как сказал Василий Волков, эта формулировка более отвечает интересам всех, в том числе неядерных государств.

**ПОСОДЕЙСТВУЕМ!**

10 декабря в штаб-квартире СНГ состоялась встреча координатора рабочей группы Ивана Коротчени с американской делегацией Ассоциации содействия ООН. На встрече обсуждались вопросы о СНГ, стратегических силах, Уставе Содружества.

Американская делегация прибыла в Минск для участия в конференции Ассоциаций содействия ООН.

● АНОНС

## МОЙ РОДНЫ КУТ

УЛ. ІНФ. «ДВ».

Як вядома, сёлета святкуецца 925-гадовы юбілей нашага горада. Уласна кажучы, асноўныя мерапрыемствы, якія звязваліся з гэтай падзеяй, ужо прайшлі. Але **рада гарадскога краязнаўчага таварыства «Менск» вырашыла ўнесці свой уклад у святкаванні, пэўна, ужо ў завяршэнне, і аб'яўляе аб першых краязнаўчых чытаннях. Яны адбудуцца 20 СНЕЖНЯ А 12 ГАДЗІНЕ Ў БІБЛІЯТЭЦЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ, што па вуліцы В. Харужай, 16.**

Вядома, узнікае пытанне адносна тэматыкі чытанняў. Як паведамілі нам арганізатары, ніякіх абмежаванняў не будзе — на густ кожнага ўдзельніка. Праўда, усё ж адна акалічнасць ёсць — рэгламент выступленняў вызначаны ў 10 хвілін.

Упэўнены, што зацікавіць многіх краязнаўцаў і паведамленне аб тым, што ўсе матэрыялы чытанняў будуць надрукаваны. Сродкі на гэта выдзяляе аддзел культуры Мінскага гарвыканкама. Матэрыялы трэба будзе толькі здаць у аргкамітэт у час і пасля чытанняў — да 1 лютага.

Застаецца толькі падказаць, як падаць заяўку на ўдзел у чытаннях. Для гэтага трэба тэлефанаваць: 34-22-35. Словам, рыхтуйцеся, краязнаўцы!

● ВЫСТАВЫ





## СПЯШАЙЦЕСЯ ПАБАЧЫЦЬ!

*МІХАІЛ ВАСІЛЕВІЧ.*

*МЫ ўсе крышачку нешта майструем, вышываем альбо вяжам. Але калі за гэта бярэцца чалавек па-сапраўднаму таленавіты, то нават звычайны кошык ці сурвэтка робяцца з'явай у мастацтве. Калі вы зазірнеце на выставу-продаж у Саюз мастакоў (г. Мінск, вул. К. Маркса, 8/21), то зможаце не толькі палюбавацца на прыгожыя вырабы і карціны, але і набыць усё, што на сэрца ляжа. Больш таго — можна зрабіць індывідуальны заказ майстру на афармленне офіса ці кватэры альбо проста заказаць падарунак любімай жанчыне.*

*На выставе, я ўпэўнены, знойдуцца карціны ці вырабы народных майстроў на любы густ. Гэта нават перашкаджае ўспрымаць экспазіцыю цалкам, але ж узровень асобных работ досыць высокі. Напрыклад, многім знаёмы па вокладках кніг і часопісаў вырабы з саломкі Лідзіі Главацкай. На выставе іх можна не толькі пабачыць увачавідкі, але і набыць. Прадстаўлены вырабы не толькі майстроў, якія сталі ўжо жывымі класікамі, але і для моладзі месца знайшлося. Многім прыйдуцца па густу ўпрыгожванні і шкатулкі Марыны Бацюковай, карціны маладых таленавітых мастакоў Ігара Бархаткова, Аляксандра Лубнеўскага ці батыкі Ніны Пілюзінай. Не буду пералічваць усё, што мне спадабалася на выставе, але перад невялічкай карцінай «Закінутая сажалка» нясвіжскага мастака Мікалая Катка затрымліваюцца многія. Так, сапраўднае мастацтва немагчыма зблытаць ні з чым.*

*Расказ аб пастаянна дзеючай выставе-продажы будзе няпоўны, калі не згадаць аб тым, што яна была задумана фірмай «Лагода» і Саюзам мастакоў, каб дапамагчы інвалідам. Сярод іх шмат народных майстроў, талентам якіх абуджана да жыцця многае з таго, што прадстаўлена на выставе.*

**● У выставачнай зале Саюза мастакоў.**

**● «Восень». Аляксандр Лубнеўскі.**

● СПОРТ-ХРОНИКА БелаПАНа

* В ОТКРЫТОМ чемпионате России по хоккею продолжают свое победное шествие белорусские клубы «Неман» (Гродно) и «Химик» (Новополоцк). После очередных побед они заняли, соответственно, первое и второе места в своей подгруппе. «Химик» выиграл у «Марса» из Твери—6:4 и 4:3 и «Яринтеркома» из Ярославля—4:2 и 5:4. «Неман» дома дважды переиграл «Ижорец» (Колпино)—7:4 и 9:2, а в гостях «Металлург-2» (Череповец)—7:3 и 5:2.

* ИСПОЛКОМ Международной федерации баскетбола (ФИБА) принял решение, что в финальном турнире чемпионата Европы 1993 года, который состоится в Германии, будут играть 16 (а не 8, как ранее) команд. Это означает, что у сборной Беларуси появился шанс попасть в Германию. После отборочных турниров 12 вакантных мест уже заняты, а остальные 4 путевки будут разыграны в квалификационном турнире, в котором, кроме белорусской сборной, примут участие еще 14 команд.

* НЕУДАЧНО сыграли в розыгрышах европейских футбольных кубков во вторник и среду российские клубы. Московское «Динамо» проиграло, будучи в гостях, ответный матч 1/8 Кубка УЕФА португальской «Бенфике»—0:2 и выбыло из розыгрыша (так как первый матч закончился вничью—2:2). ЦСКА в лиге чемпионов проиграл 0:1 «Глазго Рейнджерс» и тоже практически лишился возможности попасть в финал. Следует отметить, что этот матч состоялся в Германии, так как в России только стадион «Торпедо» имеет поле с подогревом, но и он не соответствует международным стандартам.

* ВНИЧЬЮ—3:3—завершился матч розыгрыша Кубка Межнациональной хоккейной лиги в Ярославле, в котором встречались местное «Торпедо» и минское «Динамо».

● КАЛОДЗІШЧЫ: НЕБЯСПЕЧНА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

# ЗУСІМ МАЛЕНЬКІ... ЧАРНОБЫЛЬ

### (СПРОБА ЎСКОСНАГА ДОКАЗУ)

**ТАІСА ХАРТАНОВІЧ, аглядальнік «ДВ».**

У ЛЕТКУ клубніцы тут родзяць велізарныя і адна ў адну. Гаспадынькі нясуць іх прадаваць вёдрамі — адрываюць з рукамі. Відаць, пакупнікі лічаць: мясцовыя — значыць, «чыстыя». Для людзей, аднойчы і назаўсёды «аглушаных» Чарнобылем, галоўнае: не з зоны. Бо пачварней той трагедыі і няма нічога. Не ведаюць: тут, у Калодзішчах, таксама «зона», і даволі небяспечная. А ягадкі тыя, што радуюць вока, такія сакавітыя і адборныя, толькі пад вышкамі-антэнамі радыётэлецэнтра, якімі «нашпігаваны» пасёлак. Далей ад іх ураджаі звычайныя. Гэта людзі даўно прыкмецілі, але зразумелі, у чым сакрэт, нядаўна, калі прыкметы бяды сталі яўнымі...

Радыёцэнтр з'явіўся пад Мінскам яшчэ ў 30-я гады. Але тады, дый па аднаўленню яго пасля вайны, жылых пабудоў тут не было. Пазней паступова жыллё, як цяпер кажуць, само «падпаўзло» да радыёцэнтра. Хаця як само? Па дакументах дазвол на выдзяленне ўчасткаў і будаўніцтва дамоў даваў з 60-х гадоў Мінскі гарвыканкам. Экалагічнае становішча тады не проста не ўлічвалася — няцяжка здагадацца, што само гэтае паняцце не мела дазволу існаваць. Недасведчаныя ж людзі не прывучаны былі задумвацца аб шкодзе электрамагнітнага выпраменьвання, што ішло ад вышак. А яны будаваліся шпарка. З імі развівалася наша радыё — пазней і тэлевяшчанне. Вышкі «падносіліся» больш як выдатнасці і гонар — гэтак прытуплялася разуменне іх шкоднасці.

Уласна, грэх наракаць тут на людзей, выхаваных у шчырай даверлівасці, марыянетачна паслухмянымі. Відаць, цяпер ужо няма сэнсу «кідаць камянямі» і ў тых кіраўнікоў аб'екта, хто ведаў, чым пагражае жыццё пад вышкамі, але служыў «вялікім мэтам» і загаду клапаціцца пра людзей не меў.

Да часу не лічылі аб'ект у Калодзішчах вартым сваёй увагі і санітарныя службы, якія безразважна і пакорліва кіраваліся ўказаннямі з... Масквы. Толькі ў 84-м годзе адтуль былі «спушчаны» пэўныя нарматывы, а праз два гады саюзныя ахоўнікі здароўя даслалі і распрацоўкі па вызначэнню ўзроўняў уздзеяння электрамагнітнага поля. Пасля гэтага на аблСЭС нарэшце з'явіліся адпаведныя спецыялісты, якія правялі першыя замеры ў ваколіцах Рэспубліканскага радыётэлевізійнага перадаючага цэнтра (РРТПЦ).

Найбольш уніклівыя з тамашніх жыхароў расстараліся данымі вымярэнняў, якія пацвердзілі тое, што пачалі разумець многія: жыць паблізу радыётэлецэнтра небяспечна. І хаця рэспубліканскае міністэрства аховы здароўя, паспрабавала, бы здзекваючыся, цынічна «закалыхваць», маўляў, «істотных адхіленняў у паказчыках здароўя насельніцтва пасёлка Калодзішчы ад сярэднестатыстычнага і сярэднерэспубліканскага не выяўлена», відавочным было тое, што «несярэднія» жыхары ў пасёлку паміралі ў росквіце гадоў.

— І цяпер у кожным доме, што пад вышкамі, — анкалагічны хворы, — пацвердзілі мясцовыя дактары. Паводле рэгістрацыйных даных пасялковай амбулаторыі, за апошнія дзесяць гадоў на ўліку пабыло 680 анкалагічных хворых, памерла ад рака амаль 90 чалавек, многія—ва ўзросце 40—50 гадоў. Гэтая лічба, дарэчы, большая, калі ўлічыць тых, хто не стаяў на ўліку ў амбулаторыі, а памёр у бальніцы ад рака нечакана... Для пэўнага роздуму і наступныя лічбы: у мінулым годзе ад рака памерла пяць чалавек, што жылі паблізу вышак (прыкладна з 500 жыхароў), а на астатняй тэрыторыі пасёлка — толькі адзін (у пасёлку ж з дзесятак тысяч жыхароў). Пераканальна, ці не праўда? І такі не адзіны год. Вось і сёлета памерла дзесяць хворых.

А раскінуць па-міністэрску, то «сярэдні» чалавек жыў-здароў. У яго нават і галава не баліць. Але вось у «зоне», напрыклад, у школе (што, дарэчы, аж пад двюма вышкамі) праверылі, і аказалася, што дзеці хутка стамляюцца, адчуваюць пастаянны шум у галаве, яна часта баліць, у некаторых ідзе носам кроў. А па замерах школа — не найгоршае месца. Толькі вось меркаванне аднаго з актывістаў «каладзішчанскага руху» Ігара Майсеевіча Пінхасіка: ім тут ды іх дзецям і найменшыя дозы на шкоду, бо ўжо «наглыталіся» спаўна. Прывялі дактары і яшчэ прыклад: у пяціпавярхоўцы на вуліцы Сафронава ва ўсіх вуглавых кватэрах (найбольш даступных выпраменьванню) у дзяцей цяжкія нервовыя цікі. Наогул, захворваемасць у пасёлку высокая.

— Але ўсё гэта з электрамагнітным выпраменьваннем афіцыйна не звязваецца, — яўна з поўным разуменнем ісціны «супакоіў» нас галоўны ўрач сельскай участковай бальніцы Васіль Фёдаравіч Грабоўскі.

Не дазваляюць звязваць, удакладнім мы. Бо даўно даказала навука, што пад уздзеяннем электрамагнітнага поля парушаюцца функцыі сардэчна-сасудзістай сістэмы, абмен рэчываў, дае збой сакрэцыя страўніка і гарманальная функцыя арганізма, парушаецца нервовая дзейнасць.

Уявіце, калі афіцыйна прызнаць такую сувязь. Клопату не абярэшся. А так небяспека відавочная, але даказаць немагчыма, зноў дазволу няма.

Людзі бы ў пастцы. Некалі ахвяравалі імі «ў імя прагрэсу». І няма дзе ўзяць цяпер вінаватых, каб спытаць за тое, што некалі распачатая карысная і сапраўды прагрэсіўная справа прывяла да жудасных вынікаў. Цяпер ёсць толькі яе «прадаўжальнікі». Адзін з іх — галоўны інжынер цэнтра Валерый Мікалаевіч Шышло — мае рацыю, калі даволі жорстка сцвярджае, бы ставячы кропку: і далей будзем будаваць, нічога ўжо не зменіш.

Гэта першая праўда: такую колькасць вышак, што «выраслі» тут, дзець няма куды. Другая — у тым, што і людзям адсюль не ўцячы. І не толькі тым, хто жыве пад вышкамі. Сенсацыйна тое, што, як сказаў адзін з вельмі адказных асоб, па апошніх даных, варта б было выселіць жыхароў усяго пасёлка.

Замкнёнае кола, злавесны тупік для многіх людзей. «Шчасце» тых, хто не ведае ці ведае, ды не ўсведамляе, чым пагражае жыццё тут. А такіх даволі шмат, бо дагэтуль жыхароў аб выніках вымярэнняў не інфармуюць. Яны будуюць дамы там, дзе замеры паказваюць перавышэнне максімальнай мяжы. Людзі разворваюць зямлю пад бульбу пад новымі вышкамі.

— Ад няведання сітуацыі, — сказаў нам старшыня сельсавета Васіль Дзмітрыевіч Краўчанка.

А дзе ж ваша ўлада, паважаны Васіль Дзмітрыевіч? Вы ж становішча ўжо ведаеце. Цяпер ведаеце. Праўда ж і тое, што толькі нядаўна даведаліся ў сельсавеце пра сапраўдную сітуацыю, бо «грыф» сакрэтнасці сваім арліным вокам гадамі пільна сачыў за захаванасцю сваёй гаспадаркі. Можа таму, сярод даных аблСЭС ёсць такія, што абвяшчаюць прымальныя ўзроўні вылучэння ў зоне пражывання людзей.

— Справа ў тым, — растлумачылі нам Міхаіл Пятровіч Карповіч і Ігар Майсеевіч Пінхасік, якія першымі «ўзнялі шум» аб небяспецы, — што існуе вялікая розніца паміж разлікамі тэарэтычнай санітарна-ахоўнай зоны і зоны абмежаванай забудовы, і рэальнымі замерамі, якія праводзіліся выбарачна. Трэба ж скласці падрабязную карту гэтых вымярэнняў, каб дазнацца праўды.

За гэта каладзішчанскія «общественники» і змагаюцца. А пакуль вядомы толькі асобныя ачагі бедства ў самым «эпіцэнтры» разгулу электрамагнітных палёў.

Дом 5-а на Цэнтральнай вуліцы. Адсюль пайшлі першыя «чалабітныя» з просьбамі аб выратаванні. Фатальны дом за 200—300 метраў ад адной з вышак, па сутнасці, у санітарна-ахоўнай зоне — мёртвай для пражывання.

— Гэта кашмар! — абурылася першы жыхар дома, якога мы сустрэлі тут. — Мы і ўначы не адпачываем: шум у галаве, сэрца баліць. Як дурныя ідзём ранкам на працу. Малыя хварэюць...

Дом-барак, сыры і змрочны, здавалася, так ужо і не жывуць. У Ірыны Барысаўны Хадарцэвіч двое дзяцей. Дачка хворая на страўнік, яе пастаянна нудзіць. У сына ідзе носам кроў, баліць галава, сціскае сэрца. Калі адпачываюць у бабулі ў вёсцы, недамаганне праходзіць поўнасцю, дзеткі адчуваюць сябе здаровымі.

Ва ўсіх кватэрах гэтага дома значнае перавышэнне дапушчальных узроўняў.

— Нормы існуюць толькі для вымярэнняў на дварэ, не ў доме, — заўважыў бы мімаходзь Валерый Мікалаевіч Шышло (з якім наведалі пасёлак), калі ў кватэры Георгія Аляксандравіча Хмары каля пліты прыбор паказаў перавышэнне «неіснуючай» нормы больш чым у шэсць разоў.

Вось такое яшчэ вытанчанае зладзейства складальнікаў нарматыўных папер: зрабіць немагчымым доказ яўнай шкоды. Ці, мабыць, таму і няма гэтых нормаў вымярэнняў, што распрацоўшчыкам і ў галаву не прыйшло, што пад вышкамі будуць будаваць жыллё?!

А людзі пакутуюць. Яны адчуваюць шкоду лепш за самыя дакладныя прыборы. І калі іх запэўніваюць, што вышкі працуюць па графіку, пастаянна некаторыя адключаны, яны не вераць, бо ўвечары прыкметна падае напружанне ў доме, нават нельга паслухаць транзістар, ледзь свецяць лямпачкі. І не вельмі дасведчанаму ясна: набралі магутнасць антэны: уначы нястрашныя ніякія праверкі.

— Паляпшаць умовы людзям у гэтым доме трэба, — усё ж прызнаў у час нашай паездкі галоўны інжынер.

Але ж не так, Валерый Мікалаевіч. Кіраўніцтва цэнтра абавязана дапамагчы жыхарам дома. Яны ўвогуле аказаліся падманутымі вамі, бо барак, у які яны некалі засяляліся, меў статус інтэрната і жыллём для жыхароў быў часовым. Усе яны стаялі на ўліку для атрымання кватэр. Каб часовае жыллё было больш зручным і прасторным, некаторыя з іх перасунулі сценкі. Аказалася, сабе на бяду. Усіх іх з чаргі выключылі як забяспечаных неабходнымі метрамі. Спрабавалі «бунтаваць», але ім далі зразумець, што ў такім разе ўжо напэўна жыллё не атрымаюць. «Скаржнікі» сціншыліся. Але дагэтуль кватэрамі іх нават не дражняць. А парады даюць такія: не класці дзяцей ля акна, паблізу батарэй, не расчыняць форткі. А як жыць пры тым у невялікіх пакоях?

Людзі адчуваюць сябе асуджанымі і адрынутымі. Між тым іх бядой і паспекуляваць не грэбуюць, маўляў, не небяспека іх палохае, новыя кватэры захацелі. Ах, які выгадны аргумент, каб лішні раз прыкрыць яўнае дрэннае становішча ў пасёлку!

Наша спроба раскрыць каладзішчанскія «таямніцы» не прэтэндуе стаць нечаканасцю, пэўным выбухам. Аб іх ведаюць усе высокія інстанцыі, імі быў заклапочаны народны дэпутат Беларусі Ігар Гермянчук, які жыве непадалёк. Пасля шматлікіх зваротаў да яго, у Саўмін, іншыя інстанцыі былі запрошаны «незалежныя» спецыялісты-эксперты з Кіева, каб правесці вымярэнні найдакладнейшымі прыборамі.

Паводле іх даследаванняў, у межы санітарна-ахоўнай зоны (!) трапіў квартал жылой забудовы, абмежаваны вуліцамі Сацункевіча, Першамайскай і Мінскай, таксама бліжэйшы дачны масіў і часткова тэрыторыя піянерскага лагера «Чайка». Узровень уздзеяння электрамагнітнага поля ў памянёным доме на Цэнтральнай быў вызначаны як недапушчальны. Такое ж становішча аказалася ў доме 26 па вуліцы Мінскай і ў памяшканнях на тэрыторыі дзіцячага садка (па той жа вуліцы), дзе прыбор часам проста зашкальвала.

Каб адвесці бяду, кіеўскія навукоўцы прапанавалі адсяленне людзей с санітарна-ахоўнай зоны. Яны пацвердзілі: размяшчэнне жылой забудовы, дзіцячых установ і радыётэлеперадаючага цэнтра НЕСУМЯШЧАЛЬНАЕ. Яны ж далі і пэўныя рэкамендацыі, каб палепшыць становішча ў пасёлку.

Зацікаўленыя ўстановы хуценька адрэагавалі на вынікі экспертызы. Санітарныя службы розных узроўняў, вядома ж, рэкамендавалі адміністрацыі цэнтра тэрмінова прыняць меры.

Тая, бы не давяраючы «незалежнай» экспертызе, прафінансавала новую, запрасіўшы да сябе самарскіх даследчыкаў. Відавочна, што тым проста адтэрмінавала прыняцце выратавальных захадаў, якія, шчыра кажучы, у большасці пакуль нерэальныя, бо выдаткаў патрабуюць астранамічных. Гэта, безумоўна, усведамляюць гаспадары цэнтра. І хаця вядуць размову аб яго «рэканструкцыі», нават ужо «вынеслі» дзве антэны за межы пасёлка, але не могуць «затлуміць» галаву жыхарам, якія ведаюць сутнасць гэтай рэканструкцыі: антэны, што вынесены ўсяго за кіламетр, маюць значна большую магутнасць за існуючыя.

Выйсця няма? На першы погляд, не. Бо, паўторым, не вынесці антэны, не перасяліць людзей, непамерна дорага экраніраваць ад выпраменьвання пабудовы. Здаецца, не спыніць (?) і будаўніцтва новага прыватнага жылля, якое ідзе без узгаднення з санітарнымі службамі, без дазволу спецыялістаў РРТПЦ. Хаця, здагадваемся, не без дазволу мясцовай савецкай улады. Але ж пакідаць і надалей людзей без выратавання — злачынна. Бо яны не маюць нават нармальнай медыцынскай дапамогі. Адной маленькай амбулаторыі не хапае. Дый многіх спецыялістаў-урачоў тут няма, няма і нармальнай бальніцы, толькі невялічкі стацыянар для дарослых хворых. Колькі ўжо абяцае роднае Міністэрства аховы здароўя пабудаваць паліклініку, але адкладвае і адкладвае. Апошняя адтэрміноўка тлумачылася проста смяхотна: аказалася, што ўзводзіць будынак трэба не там, дзе намячалася, а пасунуць на два метры ўбок (!). Так, смешна гэта і абуральна. Калі ўжо і казаць пра пэўны перанос, дык значна далей; будаўніцтва ж намечана... пад вышкамі.

Спадзяёмся, даравальная наша песімістычная бездапаможнасць у пошуках выйсця. Але, шчыра, не наша гэта справа. Ды і наўрад ці змаглі б гэта зрабіць: за 60 гадоў засакрэчанасці нарабілі так шмат, што, відаць, толькі прафесіяналы дзяржаўнага ўзроўню змогуць (і павінны) унікнуць у сутнасць ужо рэальнай трагедыі і вызначыць, як выратаваць людзей.

Наша ж мэта была сціплая — праінфармаваць людзей, каб не былі і надалей яны недасведчанымі і «цёмнымі».

● АДРЕСА ПРИВАТИЗАЦИИ

# КАК ЖИВЕТЕ, ЧАСТНИКИ?

**ОЛЬГА ЖАРИНА.**

Частники, это, конечно, громко сказано. Поскольку помещение и основное оборудование для работы им приходится арендовать. Но в то же время фотографию по пр. газеты «Правда» государственной уже не назовешь, в августе она зарегистрирована как общество с ограниченной ответственностью под названием «Микаб». Поданы документы на выкуп. Кстати, это пока единственная фотография в городе, вышедшая из объединения кинофото работ «Вилия».

Задав **директору «Микаба» А. И. Михееву** вопрос: «Как вам работается самостоятельно?», услышала в ответ оптимистичное: «Отлично». Правда, при более обстоятельном разговоре выяснилось, что все не так просто. Одна из основных причин, мешающих нормально работать, — высокие налоги.

— За 2 месяца мы получили 110 тысяч рублей, — **рассказывает Александр Иванович**, — но около 70 (!) сразу ушло на налоги. Плюс зарплата, и у нас почти ничего не осталось. И так каждый месяц, налоги забирают 60—70 процентов выручки. А на развитие дела, на закупку химикатов, бумаги, не говоря уже про съемочное оборудование, остается практически ноль. Вот сейчас у нас на счету чистой прибыли 30 тысяч. А мы все-таки задумали переоснастить фотографию новой техникой, для чего нужна немалая сумма денег. Старое оборудование отслужило уже лет 20 и даже не имеет остаточной стоимости, фактически это утиль, но тем не менее при приватизации камеру придется выкупать примерно за 200 тысяч. Так проще купить новую, лучшую, а эту вернуть «Вилии», что я и делаю. На днях приобрел съемочную камеру производства БелОМО за 22 тысячи.

Еще лучше купить импортное оборудование, повысится производительность труда, улучшится качество фотографий, а значит, будет больше клиентов. Но для этого нужна валюта. Подумывали мы о создании совместного предприятия, но тут свои сложности. Во-первых, как вести расчеты с партнером, которому не нужны рубли? Во-вторых, только на регистрацию СП потребуется около 200 тысяч. Пока у нас таких денег нет. И все же я не теряю надежды найти какой-то выход.

**— Значит, если бы налоги поменьше, то жить можно!**

— Может быть и другой вариант. Пусть нам продадут помещение и оставят нынешние налоги. Это тоже лучше: отпала бы арендная плата, и, главное, мы стали бы полными хозяевами здесь. А пока мне говорят: вот у тебя 5 кранов с горячей водой и ты должен за каждый платить по 25 тысяч в год. А будь я хозяином, оставил бы всего один — этого достаточно — остальные перекрыл бы, нашел бы и другие источники экономии. Сейчас же на это не имею права.

**— Александр Иванович, судя по вашим словам, забот у фотографии после выхода из «Вилии» прибавилось. Ну, а преимущества есть, к примеру, — высокая зарплата!**

— Раньше мы получали даже больше, да еще где-то и подхалтурить могли, деньги ведь были не свои. А сейчас я, совмещая работу директора и фотографа, получаю 5 тысяч, мой напарник — чуть меньше, у кассира оклад — 3 тысячи. И, самое главное, больше чем на 20 процентов поднять зарплату невозможно, потому что будем вообще в убытке.

Еще хорошо, что собрались люди, преданные своей работе, и для них деньги — не самое главное. Они и свои отдадут в дело, если надо. Для коллектива основное — сохранить фотографию и помочь встать фирме на ноги, окрепнуть. И, потому люди готовы работать даже с минимальной зарплатой.

**— Но надолго ли хватит их терпения! В конце концов, у всех семьи, которые надо кормить.**

— Думаю, в ближайшие годы состав работников не изменится. Я уверен в своих ребятах, иначе просто не начал бы всю эту историю с отделением.

Между прочим, будь мы в составе «Вилии», обоих кассиров (а женщины уже на пенсии), наверное, давно бы уволили. Мы же сохранили все рабочие места: 2 фотографа, оператор звукозаписи и 2 кассира.

**— И это единственный плюс!**

— Нет, почему же. Хлопот, конечно, хватает, но зато никто не дурит голову, не требует выполнения плана, у нас такого понятия вообще нет.

И потом, надо же быть кому-то первым. Вот мы и попробовали отделиться, и теперь я не хочу возвращаться в объединение. Хотя мы продолжаем деловое сотрудничество: «Вилия» ведет всю нашу прейскурантную документацию, мы при необходимости берем у нее материалы для работы.

Им, кстати, не легче, чем нам. Нас пятеро, а там больше 500 работников. И около 40 процентов фотографий города — убыточные. Сейчас всем тяжело, надо пережить этот кризис.

**— Я вижу у вас на столе интересные книги, приходится учиться!**

— Да, закончил курсы менеджеров, а теперь думаю, что не помешает и знание бухгалтерского учета. Приходится сталкиваться со многими новыми вопросами, которыми раньше не занимался.

**— Александр Иванович, чувствую по настроению, прогнозы на будущее у вас довольно оптимистичные!**

— Я думаю, несмотря ни на что, выживем. Когда у человека есть цель и желание, он способен на многое.

Может, и правительство облегчит нашу участь, например, пересмотрит налоговую политику.

Я просто не мыслю себя в другой сфере, слишком люблю фотографию, значит, буду работать.

● ФАКТ

## ДОВЕДЕТ ЛИ ЯЗЫК ДО КИЕВА?

**БЕЛИНФОРМ.**

Что называется, с новогодним приветом обратилось правительство Украины к своим коллегам из Беларуси, заверив, что в новом году «язык до Киева доведет» не всякого. Кабинет министров Украины принял постановление об организации пограничной-таможенного контроля на государственной границе Украины с Беларусью. В связи с этим в оставшиеся дни старого года на границе с украинской стороны должны быть созданы временные пограничные-таможенные посты. А до 1 февраля 1993 года совместными усилиями двух сторон решатся вопросы организации правового оформления государственных границ.

Всем, кто на Рождество поспешит в Киев, надо учесть, что пункты пропуска через государственную границу Украины будут открыты и в аэропортах, из которых осуществляется воздушное сообщение с республиками бывшего СССР.

Но чтобы не совсем расстраивать своих соседей, а также граждан других государств, входящих в зону обращения российского рубля, таможенному комитету Украины дано добро на ввоз и вывоз из республики рублевой наличности без ограничений, сохранив при этом строгий порядок на «экспорт и импорт» украинского купона—карбованца.

● ФАКТ И КОММЕНТАРИЙ

## «МЫ СЛИШКОМ БЫСТРО РАЗБЕЖАЛИСЬ»

**ВИКТОР КУКЛОВ, БЕЛИНФОРМ.**

Проблеме безработицы посвящен трехдневный международный семинар, который состоялся в Минске. Его организовали Международный центр социально-трудовых проблем, Государственный комитет по труду и социальной защите населения и государственная служба занятости Беларуси. В числе участников — работники государственных служб занятости населения России, Украины, Молдовы, Казахстана, Латвии, Литвы и, естественно, Беларуси.

— Мы слишком быстро разбежались, — подчеркнул в своем выступлении руководитель федеральной службы занятости России Ф. Прокопов. Он, как и большинство участников семинара, считает, что проблема трудоустройства носит интернациональный характер.

— Появление границ между народами, живших десятилетиями одной большой семьей, усугубило проблему обеспечения людей рабочими местами, — говорит руководитель государственной службы занятости Беларуси Николай Шивандо. — Жители нашей республики, например, традиционно выезжали на работу в ряд российских областей, в Прибалтику. Прибавили хлопот и миграционные процессы. Теперь в каждой стране свои законы, социальные гарантии. Необходимы межгосударственные соглашения, касающиеся занятости населения. Возможно, данный семинар станет отправной точкой для их выработки. Совместный поиск решения общих проблем и обмен опытом поможет нам быстрее наладить цивилизованную систему государственных служб занятости, создать единый информационный банк.

● АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## ЭКАНОМІКУ ДЭМАНАПАЛІЗУЕМ, УЛАСНАСЦЬ ПАДЗЕЛІМ, А ВАЕННАСЛУЖАЧЫХ АБАРОНІМ

**АЛЯКСАНДР ЛІМАНОЎСКІ, БЕЛІНФАРМ.**

ЭКАНАМІЧНАЯ і ваенная рэформа ў Беларусі — так можна коратка сфармуляваць тэму праведзенай у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь прэс-канферэнцыі, у якой прынялі ўдзел старшыня пастаяннай камісіі парламента па эканамічнай рэформе, дасягненню эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі Леанід Козік і намеснік старшыні камісіі па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю Леанід Прывалаў.

У бліжэйшы час парламент рэспублікі будзе разглядаць чатыры асноўныя эканамічныя законапраекты: аб антыманапольнай дзейнасці, аб акцыянерных таварыствах, аб прыватызацыі і раздзяржаўленні і аб прыватызацыйных чэках для насельніцтва. Сваімі думкамі адносна гэтых праектаў і падзяліўся з прысутнымі старшыня камісіі па эканамічнай рэформе, дасягненню эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі Леанід Козік.

Перш за ўсё ён указаў на тое, што змагацца з цяперашнім ростам цэн, маючы такую колькасць вытворцаў-манапалістаў, марная справа. А таму, нягледзячы на бурныя пратэсты з боку многіх вытворцаў, неабходна як мага хутчэй прыняць антыманапольны закон. Акрамя таго, гэты закон зможа пакласці канец узнікшай дыспрапорцыі ў цэнах на прадукцыю прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Закранаючы пытанне аб раздзяржаўленні і прыватызацыі, Леанід Козік сказаў, што згодна з падрыхтаваным законапраектам, грамадзяне рэспублікі атрымаюць бясплатна 30 працэнтаў дзяржаўнай маёмасці. Пасля ацэнкі гэта маёмасць будзе, па сутнасці, проста падзелена паміж грамадзянамі ў залежнасці ад узросту і працоўнага стажу. Самай жа вострай праблемай старшыня лічыць тое, што ў гэты закон закладзена і пытанне прыватызацыі зямлі.

Намеснік старшыні пастаяннай камісіі па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю Леанід Прывалаў гаварыў аб прынятым на цяперашняй сесіі парламента пакеце ваенных законаў. Ён, у прыватнасці, падкрэсліў, што дзякуючы гэтым законам удалося забяспечыць сацыяльную абарону ваеннаслужачых. Разам з тым не ўсе праблемы вырашаны. Згодна з прынятай нядаўна ваеннай дактрынай Рэспублікі Беларусь, колькасць ваеннаслужачых Беларускай арміі павінна быць скарочана.

У заключэнне прэс-канферэнцыі дэпутаты адказалі на пытанні журналістаў.

● ДЕНЬ РЕСПУБЛИКИ: НОВОСТИ

## РЫНОК БЕЗ ГРАНИЦ

**БЕЛИНФОРМ.**

Эстафету презентации Комитета по делам выставок и ярмарок немецкой экономики (АУМА) после Москвы, Санкт-Петербурга, Киева 10 декабря принял Минск. Она вызвала большой интерес у представителей государственных и коммерческих структур Беларуси. Для них появилась хорошая возможность глубже изучить порядок и условия участия в международных выставках и ярмарках, проводимых в ФРГ. В этой стране их называют рынком без границ, они стали там инструментом сбыта и приобретения различной продукции и играют значительную роль в успехе предпринимательства. Об этом рассказал управляющий делами АУМА Петер Невен. Он также подчеркнул, что наши отношения с партнерами не могут быть улицей с односторонним движением и сегодняшнее мероприятие должно открыть двери для поступления белорусских товаров на внешний рынок.

Участников мероприятия приветствовали первый секретарь посольства Германии в Республике Беларусь господин Й. Регенбрехт и председатель президиума торгово-промышленной палаты республики В. Лесун.

Спонсором презентации явилось федеральное министерство экономики ФРГ, а организатором — выставочное общество «ДМА-Берлин».

СПОНСАР — УНІВЕРМАГ «БЕЛАРУСЬ»

ФОТАКОНКУРС «ДВ» — «ЯК САМО ЖЫЦЦЁ»

▲ НА ПРАГУЛЦЫ.

ЮРЫЙ ЗАХАРАЎ.

● АКТУАЛЬНА

## БАХА ІГРАЕ КАМП'ЮТЭР

**АЛЯКСАНДР ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛІНФАРМ.**

ВЫВЕДЗЕНЫЯ на экран манітора ноты загучалі. Знаёмая мелодыя вялікага кампазітара. Яе іграў камп'ютэр. Навінка, прадстаўленая журналістам і мастацтвазнаўцам на прэс-канферэнцыі, прысвечанай абнародаванню першых вынікаў дзейнасці праблемнай навукова-даследчай лабараторыі сацыялогіі музыкі, што прайшла ў Беларускай акадэміі музыкі, была для ўсіх нечаканым сюрпрызам. Гэты унікальны «робат-музыкант» аказаўся здольным на многае і, мяркуючы па ўсім, у самы бліжэйшы час знойдзе прымяненне ў навучанні будучых музыкантаў, вакалістаў і кампазітараў.

Вучоныя акадэміі не збіраюцца канкурыраваць з Рыхтэрам. Ім, як нікому іншаму, зразумела, што ў камп'ютэр, якім бы «разумным» ён ні быў, душу не ўкладзеш. Зрэшты, сюрпрыз, калі гаварыць сур'ёзна, быў толькі прэлюдыяй да асноўнай тэмы, прысвечанай вынікам першага ў гісторыі Беларусі музычна-сацыялагічнага апытання з кодавай назвай «Музыка і мы». І вынік работы спецыялістаў прымушае аб многім задумацца.

Паводле слоў загадчыка лабараторыі кандыдата філасофскіх навук Даната Янюка, сярод усіх відаў мастацтваў у жыцці сучаснага чалавека музыка займае адно з першых месц. Аднак колькасць інтэлектуальнай аўдыторыі слухачоў зніжаецца з кожным днём. Да 80 працэнтаў жыхароў рэспублікі сёння з большай ахвотай слухаюць рок- і поп-музыку. Прыхільнікі класічных твораў застаюцца ў меншасці. Між тым, за гэтымі лічбамі стаіць велізарная праблема.

Спецыялісты лічаць, што развіццё музычнай культуры ў рэспубліцы неабходна, па магчымасці, карэкціраваць. І нацыянальная тэлерадыёкампанія, якая з'яўляецца сёння для большасці жыхароў асноўнай крыніцай музычнага «допінгу», на іх думку, павінна ўключыцца ў фарміраванне музычнай культуры ў рэспубліцы.

